№ 9-10 (61-62)
Март 2009 г.

# Глуская ПАНОРАМА

Общественно-политическая газета

***16 лет назад в Глуске произошли события, которые в некоторых средствах массовой информации были названы «бархатной революцией». Голодовка, митинг протеста, создание районного комитета общественного самоуправления, попытка проведения районного референдума о доверии местной власти, создание районной организации БНФ... Все это было в 1992 году. Этим знаменательным событиям посвящается данный номер газеты.***

## ГЛУССКИЙ РАЙОННЫЙ КОМИТЕТ ОБЩЕСТВЕННОГО САМОУПРАВЛЕНИЯ

(продолжение)

### СУСТРЭЧА З ПРАДСТАЎНІКАМІ БНФ

Чацвёртага ліпеня ў раённым Доме культуры адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускага Народнага фронта з жыхарамі Глуска, арганізаваная мясцовым камітэтам грамадскага самакіравання. У ёй прынялі ўдзел намеснік старшыні Сойма БНФ Юрый Віктаравіч Хадыка, сакратар Управы Сойма БНФ Віктар Антонавіч Івашкевіч, дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі ад апазіцыі Галіна Георгіеўна Сямдзянава, дэпутат Магілёўскага абласнога Савета народных. дэпутатаў, старшыня камітэта БНФ «Дзеці Чарнобыля» Наталля Арсенцьеўна Рослава, старшыня Слаўгарадскага гарадскога Савета народных дэпутатаў Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў.

У сваіх выступленнях удзельнікі сустрэчы расказалі аб дзейнасці Народнага фронта ў рэспубліцы, аб рабоце апазіцыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі і мясцовых органах улады, адказалі на пытанні прысутных. У сустрэчы прыняў удзел і выступіў старшыня Цэнтральнага Савета Беларускай Сялянскай партыі Яўген Міхайлавіч Лугін.

Пасля заканчэння сустрэчы



*У зале. Фото І. Кірына.*



*Удзельнікі сустрэчы Я. М. Лугін (другі справа), В. А. Івашкевіч (трэці справа), Ю. В. Хадыка (пяты справа). Фота І. Кірына.*



*Злева направа: В. А. Івашкевіч, Я. Р. Фалецкі, Г. Г. Сямдзянава, Ю. В. Хадыка, Ф. У. Шкірманкоў. Фота І. Кірына.*

адбыўся сход прыхільнікаў БНФ, на якім была сфарміравана пярвічная арганізацыя руху — суполка, якую склалі 6 глушчан.

Члены Магілёўскага камітэта БНФ «Дзеці Чарнобыля» перадалі глускаму камітэту грамадскага самакіравання партыю германскіх медыкаментаў для лячэння маючых у гэтым патрэбу дзяцей. Дэфіцытныя лекі — аднаразавыя шпрыцы, антыбіётыкі — з удзячнасцю прыняты і перададзены членамі глускага камітэта ў дзіцячае аддзяленне райбальніцы.

***І. Кірын, член камітэта грамадскага самакіравання.***

На здымку: (злева направа) В. А. Івашкевіч, старшыня КГС Я. Р. Фалецкі, Г. Г. Сямдзянава, Ю. В. Хадыка, старшыня Слаўгарадскага гарсавета Ф. У. Шкірманкоў.

***Фота аўтара.***
***“Радзіма” 11.07.1992***



*Перадача лекаў ў дзіцячае аддзяленне райбальніцы. Фота І. Кірына.
Злева направа: член КОСа А. Фаставец і загадчыца аддзялення І. Сіманава.*

Канфліктная сітуацыя

## СІНДРОМ УЯЎНАЙ УЛАДЫ

Аб падзеях, якія апошнім часам скаланаюць Глуск, наша газета пісала неаднаразова. І, здавалася б, нагоды да іх звяртацца няма, нічога новага ў канфліктнай сітуацыі паміж афіцыйнымі структурамі ўлады і створаным пад уплывам мітынгоўшчыны камітэтам грамадскага самакіравання не адбываецца. Камітэтчыкі ўзбуджаюць грамадскую думку на «барацьбу з мафіяй». Райсавет і яго структуры, нарэшце, спрабуюць разабрацца, наколькі правамоцнае існаванне ў такім выглядзе і з такімі функцыямі самога камітэта.

Але ехаць у Глуск і брацца за пяро прымусіла пісьмо ў рэдакцыю аднаго з лідэраў камітэта грамадскага самакіравання, чалавека, з якога фактычна і пачаўся «бунт на караблі», Віктара Вярыгі. Калі памятае чытач, узімку ён аб’явіў трохдзённую сядзячую галадоўку ля помніка Леніну і прыгразіў, што ў выпадку невыканання яго патрабаванняў пакончыць з сабой.

Праўда, і ў лісце В. Вярыгі не было нічога такога новага. Паведамлялася пра факты, аб якіх ужо расказала раённая газета, якія праверыла-пераправерыла не адна самая прадстаўнічая камісія. Зноў жа — аб злоўжываннях. Зараз — начальніка райаддзела міліцыі У. Р. Ільянкова і яго намесніка С. А. Дзяшчэні, якія — першы садзейнічаў цесцю ў набыцці дзяржаўнай «Волгі» па астаткаваму кошту, а другі сам набыў аўтамабіль УАЗ-469. Начальніку аб’яўлена строгая вымова за «асабістую нясціпласць», а намеснік пакуль быў у водпуску, так што яго пакаранне наперадзе.

Відаць, гэтымі мерамі рэагавання камітэт не задаволіўся, бо пракурору раёна В. Д. Сувораву накіраваў паперу з просьбай прыняць меры законнага рэагавання да С. А. Дзяшчэні. Ды пракурор пры ўсёй яго высокай прафесійнай кваліфікацыі не можа знайсці ў фаліянтах законаў гэтыя меры законнага рэагавання.

А цяпер давайце паразважаем. Ідзём да рынку. Рэальнасцю

стала шматукладнасць эканомікі. Усё больш аўтарытэтна заяўляе аб сабе прыватнік. Добра гэта ці дрэнна? За што змагаліся...

Калі запытаўся аб палітычным крэда камітэта грамадскага самакіравання ў В. Вярыгі, ён цвёрда і ўпэўнена адказаў: «Барацьба з карупцыяй, злоўжываннямі, за сацыяльную справядлівасць». Па маёй просьбе ўдакладніў: мы за дэмакратызацыю ўсіх бакоў жыцця, у тым ліку і эканомікі, за ўсталяванне рынычных адносін.

Але ж эканамічная шматукладнасць і ёсць прамы і верны шлях да сацыяльнага раздзялення грамадства, якое, дарэчы, даўно ўжо адбываецца і да якога ў простага народа рэзка негатыўныя адносіны. Да многіх тых жа кааператываў, малых і сумесных прадпрыемстваў, у якіх, на думку простых людзей, грошы грабуць шуфлямі. Значыць, такая сацыяльная справядлівасць не падыходзіць. Яна супярэчыць той, аб якой мы чулі з дзяцінства, калі былі «роўныя сярод роўных». Цяпер не будзем. Раней была партыйна-бюракратычная эліта і астатні народ. Зараз ці вельмі ў хуткім часе гэтае размежаванне значна пашырыцца: будуць вельмі багатыя, багатыя, бедныя, вельмі бедныя.

Глускаму камітэту грамадскага самакіравання гэта не падабаецца. У вітрыне мясцовага кінатэатра з'явіўся стэнд пад назвай «Палацы і халупы». А на ім фатаграфіі дабротных дамоў, у якіх жывуць той-сёй з былой наменклатуры, і хібары «простых рабочых»: маўляў, падзівіцеся на сацыяльную несправядлівасць. «Стэнд прыцягнуў увагу людзей, — піша В. Вярыга. — Але правісеў толькі два дні. На трэці ў кінатэатр прыйшоў дэпутат раеннага Савета Ю. Ф.Былінскі, асабняк якога быў на адной з фатаграфій, і самачынна зняў стэнд. Следам пад'ехаў старшыня Глускага пасялковага Савета В. І. Кудрэеў на машыне, чый катэдж таксама трапіў на фота, і павёз стэнд у невядомым напрамку. Хутка раскурочаным, з разбітым шклом і сарванымі фатаграфіямі стэнд знайшлі ў памяшканні пасялковага Савета. Камітэт грамадскага самакіравання звяртаўся ў народны суд, куды прад'явіў іск...».

З усёй гэтай непрыгожай эпапеі асноўнае тое, што суд прыняў іск. Значыць, стварэнне прававой дзяржавы — не проста дэкляраванне такой. І камітэту грамадскага самакіравання ў барацьбе з «мафіяй» і за сацыяльную справядлівасць трывала стаць бы на платформу законнасці. Бо ніякая справядлівасць ад законнасці неаддзельная — у гэтым мы з камітэтам згодны. І асноўны крытэрый справядлівасці ў эпоху рынычных адносін — законнасць.

А так шматлікія «бai мясцовага значэння», якія вядзе камітэт, на думку многіх, выглядаюць мышынай валтузнёй. Тым больш, што і само існаванне камітэта пастаўлена пад сумненне. Камісія па законнасці раённага Савета народных дэпутатаў вынесла заключэнне, у якім адносна выбрання камітэта грамадскага самакіравання сказана: «Сход грамадскасці ў такой колькасці згодна з артыкулам 21 Закона аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы Рэспублікі Беларусь не правамоцны ствараць органы тэрытарыяльна-грамадскага самакіравання пры раённым або пасялковым (сельскіх) Саветах народных дэпутатаў».

Выяўляецца і яшчэ адна непрыгожая акалічнасць. Сярод членаў камітэта аказаліся «барацьбіты за справядлівасць», супраць якіх зараз узбуджаны крымінальныя справы.

***В. Кубека.***

***"Магілёўская праўда" 24.07.1992***

## ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ГЛУССКОГО ПОССОВЕТА ПРИЗНАН ВИНОВНЫМ В ХИЩЕНИИ ИНФОРМАЦИОННОГО СТЕНДА

В Глусском районном суде закончено слушание дела по иску комитета общественного самоуправления к председателю Глусского поссовета В. Кудрееву о возмещении ущерба, нанесенного им в результате хищения информационного стенда комитета. Третья власть постановила возместить представителю советской власти нанесенный комитету ущерб в размере 480 рублей, признав при том председателя виновным в воровстве.

Комитет общественного самоуправления, несмотря на непонимание со стороны местных властей, пользуется у людей авторитетом. Собравшись вместе, инициативные глусчане ставят своей целью расследование злоупотреблений местных чиновников. И, похоже, у них это неплохо получается. Не имея возможности печататься в районке из-за ее консервативной позиции, члены комитета по согласованию с властями установили в центре Глуска информационный стенд, на котором были вывешены фотографии шикарных особняков, построенных местной номенклатурой, и аварийных лачуг, в которых десятилетиями ютятся простые труженики. В числе прочих на стенде была фотография и коттеджа председателя поссовета В. Кудреева. Однако через два дня стенд исчез, о чем и было сообщено в милицию. В ходе проверки блюстители порядка выяснили, что стенд был увезен Кудреевым на служебной автомашине и затем изуродован. Комитет обратился в суд о привлечении председателя к ответственности. Результат известен.

Суд также счел несостоятельными заявления Кудреева о якобы незаконности комитета и оскорбительном для него характере фотографий, вывешенных для всенародного обозрения. Тем не менее первая крупная победа местных робингудов не означает окончания борьбы. Объявивший о намерении провести референдум о доверии районному Совету народных депутатов, комитет, естественно, встретит на своем пути не одну преграду. Об этом свидетельствует и то обстоятельство, что в ходе судебного заседания по «делу Кудреева», свидетели называли ряд фамилий местных чиновников, принимавших участие в хищении стенда. Среди них и фамилия одного из членов президиума райсовета.

***Г. НОВИК***

***«МОГИЛЕВСКИЕ ВЕДОМОСТИ» 6.08.1992***

*Резонанс*

Наши читатели, очевидно, помнят серию публикаций специального корреспондента «Р» из Глусского района, затрагивавшие актуальные проблемы местной власти. Что же нового там сейчас, каковы, так сказать, отдаленные результаты журналистского расследования?

## КОС ПРОРЫВАЕТ БЛОКАДУ. НЕНАДОЛГО

После длительного перерыва в витрине глусского кинотеатра «Орион» вновь появился информационный стенд комитета общественного самоуправления. Перерыв был вызван хищением стенда председателем Глусского поссовета В.Кудреевым и расследованием этой некрасивой истории. Районный суд поставил в ней точку, признав В.Кудреева виновным в изъятии стенда и обязав его возместить нанесенный ущерб.

После того, как была пресечена попытка расправиться с гласностью в Глуске, на стенде появилась газета «Панорама». Первый номер посвящен митингу на глусском стадионе, прошедшем 21 июня. Он рассказывает также об очередном заседании комитета, злоупотреблениях руководителей районного отдела внутренних дел в использовании служебного автотранспорта, о вышеупомянутом судебном заседании. На стенде помещены публикации газет «Рэспубліка», «На страже», «Могилевские ведомости» о комитете общественного самоуправления.

Недавно стенд снова «реквизирован». Неужто снова надо прибегать к услугам суда?..

По просьбе глусского комитета общественного самоуправления жителям деревень Калюга и Сельцы, пострадавшим от пожара, выделена гуманитарная помощь. Транспорт для ее доставки выделил Глусский райисполком. Среди получивших помощь десятки людей, которых огненная стихия лишила всего нажитого имущества.

***Игорь КИРИН, член Глусского комитета общественного самоуправления.***

***«Рэспубліка» 2.09.1992***

## КОМИТЕТ ОБЩЕСТВЕННОГО САМОУПРАВЛЕНИЯ ВОЗОБНОВИЛ ИНФОРМАЦИОННЫЕ ВЫПУСКИ

После длительного перерыва в витрине Глусского кинотеатра «Орион» вновь появился информационный стенд комитета общественного самоуправления. Это газета комитета под названием «Панорама». В первом номере газеты - информация об очередном заседании комитета, материалы о злоупотреблениях руководителей РОВД в использовании служебного автотранспорта, объявлении об организации инициативной группы по проведению районного референдума о доверии районному Совету народных депутатов и др.

Комитет общественного самоуправления планирует регулярно рассказывать о своей работе в «Панораме», тем более, что районная газета «Родина» во главе с редактором Т. Матусевич по-прежнему отклоняет большинство материалов комитета.

Когда верстался номер, в редакцию позвонили из Глуска. По распоряжению местных властей стенд из витрины кинотеатра убрали. Ранее первый стенд был просто похищен председателем поссовета В.Кудреевым. Как видно, прогресс в развитии демократии в Глуске налицо.

***И. КИРИН, член комитета общественного самоуправления.***

***«МОГИЛЕВСКИЕ ВЕДОМОСТИ» 3.09.1992***

## В ГЛУСКЕ СОЗДАНА РАЙОННАЯ ОРГАНИЗАЦИЯ БЕЛОРУССКОЙ КРЕСТЬЯНСКОЙ ПАРТИИ

В августе в глусском ДК состоялась районная конференция Белорусской Крестьянской партии. На конференции присутствовали несколько десятков человек, в том числе председатель райисполкома В.Шетько. Среди участников конференции распространялась газета Крестьянской партии «За землю и волю», программные документы партии. Во время выступления председателя Белорусской Крестьянский партии Е.М.Лугина (кстати, он родом из д. Барбарово Глусского района) между участниками конференции завязалась горячая дискуссия о роли и месте крестьянина и Крестьянской партии, а также других партий и движений в современном обществе. На конференции была создана районная организация Белорусской Крестьянской партии, объединившая около 10 человек. Ее председателем был избран безработный Л.Зайцев, бывший журналист районной газеты, уволенный 7 месяцев назад из газеты по сокращению штатов.

***И.КИРИН, член глусского комитета общественного самоуправления***

***«Ратуша» № 18, сентябрь 1992 г.***

## БЕЗРАБОТНЫЙ — ЛИДЕР ПАРТОРГАНИЗАЦИИ

В Глусском районном Доме культуры состоялась районная конференция Белорусской крестьянской партии. На конференции присутствовали несколько десятков человек, в том числе председатель райисполкома В.Щетько, начальник управления сельского хозяйства райисполкома Н.Дедюля, председатели колхоза «Россия» В.Ильюшев и агрофирмы «Славковичи» М.Володько, фермеры, сотрудники районной газеты «Родина», члены комитета общественного самоуправления. Среди участников конференции распространялась газета БКП «За землю и волю», ее программные документы. Создана районная организация Белорусской крестьянской партии. Ее председателем избран безработный Л.Зайцев, бывший журналист районной газеты, уволенный семь месяцев назад из газеты по сокращению штатов.

***Игорь КИРИН, член Глусского комитета общественного самоуправления.***

***«Рэспубліка» 2.09.1992***

# «У НАС ПАВІННЫ БЫЦЬ АГУЛЬНАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ У РАБОЦЕ, УЗАЕМАДАПАМОГА І ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЕ»

Неабходнасць выступіць на старонках раённай газеты ўзнікла ў сувязі з тым, што па раёну пачалі распаўзацца чуткі, быццам на мінулай сесіі раённага Савета дэпутаты беспадстаўна расправіліся з раённым грамадскім камітэтам па самакіраванню пры выканкаме райсавета. Гэта па-першае. І па-другое, наступіў час і мне, як кіраўніку раёна, абазначыць сваю пазіцыю і па іншых надзённых пытаннях раённага жыцця. Выказацца шчыра, каб папярэдзіць розныя плёткі, неабгрунтаваныя папрокі, якія ідуць у адрас райвыканкама, мой асабісты.

Што датычыць камітэта па самакіраванню, хачу адразу акрэсліць сваю пазіцыю: я і члены выканкама не супраць гаго, каб такая грамадская структура існавала ў раёне. Перакананы, што камітэт патрэбен і выканкаму, і людзям. Яго карысць я бачу ў тым, каб разам вырашаць надзённыя пытанні, аб'яднаць намаганні ў барацьбе з той несправядлівасцю, несумленнасцю, якія маюць месца ў нашым жыцці. Выканкам Савета прасачыць за кожным такім выпадкам не ў сілах. Пагэтаму мы будзем толькі ўдзячны камітэту, калі ён шчыра, зацікаўлена і канструктыўна будзе ўзнімаць і дапамагаць у рашэнні гэтых і іншых задач. Кіруючыся такімі меркаваннямі я, як старшыня райвыканкама, быў у ліку тых, хто падтрымаў ідэю яго стварэння. Больш таго, з боку выканкама былі прыняты меры, каб у гэты працэс унесці арганізаванасць, папярэдзіць ад памылак. Аднак успомніце падзеі тых дзён. Мітынг на плошчы, людская незадаволенасць. І нашы прапановы арганізатарамі галадоўкі, а пазней і камітэта ўспрымаліся, як спроба пашкодзіць пачатай справе. Ва ўсіх нашых дзеяннях яны бачылі толькі адмоўнае, спробу выгарадзіць сябе. Відаць, па гэтай прычыне яны самастойна і паспешліва пачалі весці справу па стварэнню камітэта і дапусцілі грубыя юрыдычныя памылкі.

Як сведчыць заключэнне пастаяннай камісіі па законнасці раённага Савета, якой па даручэнню дэпутатаў было прапанавана праверыць законнасць стварэння камітэта па самакіраванню, памылкі датычаць артыкула 21 Закона. Сутнасць парушэнняў зводзіцца да таго, што пры стварэнні камітэта не была прадстаўлена большасць працоўных калектываў калгасаў і саўгасаў раёна (на сходзе прысутнічалі толькі 5 упаўнаважаных ад працаўнікоў вёскі) і асобныя калектывы гарпасёлка. А ў адпаведнасці з патрабаваннямі Закона сходы па выбранню камітэта правамоцны, калі на іх прысутнічае не менш паловы жыхароў, або 2/3 упаўнаважаных прадстаўнікоў ад працоўных калектываў.

Таму сесія прыняла адпаведнае рашэнне: «Згадзіцца з заключэннем пастаяннай камісіі, што выбранне раённага камітэта грамадскага самакіравання праведзена ў парушэнне артыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь».

Такім чынам, ніякага самаўпраўства дэпутатаў, тым больш, як цяпер імкнуцца падаць сітуацыю лідэры камітэта, расправы над яго членамі не было. Гэта выдумка, а дакладней хлусня. Хлусня, якая патрэбна асобным членам гэтага камітэта, каб апраўдаць сваю юрыдычную недасведчанасць, зваліць на іншых свае памылкі. Я яшчэ раз паўтаруся: райвыканкам ніякага процідзеяння не чыніў і не будзе чыніць стварэнню на прававой аснове такой грамадскай структуры як камітэт па самакіраванню. Наадварот, мы лічым, што ў нас павінны быць агульная зацікаўленасць у рабоце, узаемадапамога і ўзаемаразуменне.

Завяршаючы пачатую на гэту тэму размову, хачу зазначыць ад сябе (аб гэтым я гаварыў і на сесіі райсавета), што практычная дзейнасць камітэта па самакіраванню, яго аўтарытэт у многім залежаў і ад канкрэтных спраў тых людзей, што ўваходзілі ў яго склад. Я перакананы ў тым, што сур'ёзнай падтрымкі з боку жыхароў раёна дзейнасць былога камітэта не атрымала таму, што сярод яго членаў і тых, хто дапамагаў яму, знаходзіліся асобныя людзі, якія сваімі справамі і ўчынкамі скампраметавалі сябе.

Гэтым я не хацеў бы кідаць цень на ўсіх членаў камітэта. Сярод іх ёсць памяркоўныя, разважлівыя людзі. Я з павагай стаўлюся да меркаванняў, прапаноў, якія выказваліся Шумоўскай В. С., Малаковічам М. М., Брэус С. Р. і іншымі. Бачна, што гэтыя людзі па-сапраўднаму заклапочаны праблемамі, якімі жыве раён, і ў іх ёсць імкненне да супрацоўніцтва. Аднак мне не зразумела пазіцыя, калі камітэт замест таго, каб разабрацца ў справе, падтрымаць тых, хто заслугоўвае маральнага права на падтрымку, збірае пад сваё крыло ўсіх «пакрыўджаных», такіх, напрыклад, як былы старшыня Казловіцкага Савета Падлужны. Не выканкам, а дэпутаты Савета адказалі яму ў даверы з-за яго непрыглядных спраў па размеркаванню дэфіцытных тавараў. Аўтарытэту гэта ні ў якім разе не дабаўляла камітэту.

Аналізуючы для сябе, чаму так здарылася, чаму ў камітэт былі выбраны асобныя не зусім кампетэнтныя і аўтарытэтныя людзі, я ўспамінаю той сход у кінатэатры, на якім ствараўся камітэт. Відаць, агульнай памылкай удзельнікаў сходу было тое, што людзей у камітэт выбіралі не па іх дзелавых якасцях, а па тым, хто больш складна і бойка мог падыграць на той агульнай незадаволенасці, якая жыла сярод людзей, хто, як кажуць, мог выліць пабольш гразі на іншых. Гавару аб гэтым таму, што хачу, каб мы і ў далейшым ва ўсіх сваіх справах кіраваліся не эмоцыямі, а разважлівасцю, ацэньвалі людзей па іх справах, а не па іх красамоўству.

І яшчэ адна дэталь: падзенню рэйтынгу папулярнасці камітэта садзейнічала тое, што ў апошні час камітэт замест арганізацыі канкрэтных спраў заняўся палітыкай, апалітызаваўся. У яго рабоце ўзяты яўны кірунак на падтрымку пазіцыі БНФ, з якім наладжаны цесныя сувязі, пастаянныя кансультацыі. Гэта, відаць, таксама не на карысць камітэту. Таму што ў людзей, ды і ў мяне самога, не стану таіць, есць сур'ёз-

ныя разыходжанні з пазіцыяй БНФ па многіх пытаннях: і ў адносінах да зямлі, калгасаў і г. д. І сілком навязваць сваю волю, свае думкі, як гэта імкнецца рабіць старшыня камітэта Яўген Фалецкі, не патрэбна. Гэта, відаць, таксама расчаравала людзей.

Закрануўшы праблему дзейнасці грамадскіх арганізацый, дакладней партый, хачу абазначыць сваго пазіцыю, як старшыня райвыканкама. Я не супраць таго, каб у раёне дзейнічалі юрыдычна прызнаныя арганізацыі розных партый. І права кожнага чалавека выбіраць, у якой з іх яму знаходзіцца. Няхай у гэтай справе суддзёй для людзей будуць іх асабістае сумленне, жыццёвы вопыт. У адным магу запэўніць, што з боку райвыканкама не будзе ніякіх прыцясненняў за партыйную прыналежнасць. Што ж датычыць узаемаадносін райвыканкама з рознымі партыямі і рухамі, то мы будзем прытрымлівацца цвёрдай пазіцыі: супрацоўнічаць і падтрымліваць канкрэтныя практычныя справы і прапановы (звярніце ўвагу — справы, а не платформы партый), накіраваныя на павышэнне дабрабыту жыхароў раёна, рост эфектыўнасці вытворчасці, рашэнне сацыяльных праблем і г. д.

Словам, наша пазіцыя адназначная: мы будзем падтрымліваць левых, правых, цэнтрыстаў у той меры і да таго часу, пакуль іх справы не будуць пярэчыць нашым намаганням паправіць цяжкае становішча, якое лягло на плечы жыхароў раёна, садзейнічаць згуртаванасці, умацаванню згоды паміж людзьмі. Рабіць жа авансам якой-небудзь з партый паблажкі райвыканкам не мае намеру. Таму абвінавачванне, якое гучыць у мой адрас за тое, што дазволіў камуністам, прыкрываючыся шыльдай райвыканкама, развярнуць актыўную дзейнасць і садзейнічаю іх згуртаванню, беспадстаўныя, бо ў даны момант яны маюць сваю штаб-кватэру ў Хваставіцкім Доме культуры, якую арандуюць за пэўную плату.

Завяршаючы размову на гэту тэму, хачу заўважыць, што я імкнуся прысутнічаць, калі мяне запрашалі, на арганізацыйных пасяджэннях створаных у раёне партый. Быў на сходзе Сялянскай партыі і Партыі камуністаў Беларусі. Уражанні неаднолькавыя. Асабліва непрыемнае ўражанне зрабіла на мяне выступленне старшыні Сялянскай партыі, які, прыкрыўшыся лозунгам абароны інтарэсаў сялянства, крытыкуе ўсіх і разам з тым не прапанаваў нічога канкрэтнага, як паправіць становішча на сяле. Аб гэтым я і выказаўся на сходзе, што, відаць, не спадабалася старшыні Сялянскай партыі.

Няўпэўненасць пазіцый партый стрымлівае і мой выбар. На сённяшні дзень я не з'яўляюся членам ні адной з партый, якія дзейнічаюць у раёне.

І апошняе. Не магу змаўчаць, каб не адгукнуцца на тыя папрокі, якія прыходзіцца выслухоўваць мне, як старшыні райвыканкама, бываючы ў працоўных калектывах. Размова пойдзе аб кадрах. Даволі часта чуеш, што райвыканкам ухіліўся ад кадравай работы, паслабіў патрабавальнасць з кіраўнікоў. Адразу зазначу, што гэта не адпавядае сапраўднасці. Райвыканкам у рамках сваёй кампетэнцыі і магчымасцей патрабавальна адносіўся і будзе адносіцца да кіраўнікоў, якія знаходзяцца ў яго падпарадкаванні. Іншая справа, штр нашы дзеянні абмежаваны прынятымі законамі. Вы ж ведаеце, што цяпер самому калектыву дадзены правы на назначэнне і вызваленне кіраўнікоў. А гэта на практыцы прыводзіць да таго, што райвыканкам у пэўных сітуацыях аказваецца бездапаможным, не знаходзіць падтрымкі ў калектыве. Так было і з дырэктарам КБА Мяцельскім А. І., да якога было нямала прэтэнзій, але калі паўстала пытанне аб яго замене, калектыў не даў згоды; са старшынёй калгаса імя Калініна Халявай А. П. і г. д. Таму хацелася б, каб людзі самі зразумелі, што яны не ў меншай меры адказны за тое, як працуе іх кіраўнік, і былі больш прынцыповымі і больш адказна адносіліся да даручанай справы.

Думаецца, настаў час кожнаму з нас крытычна паглядзець на сябе, свае справы. Набрацца памяркоўнасці і развагі, не паддавацца зману і эмоцыям. Жыць у згодзе і не растраціць добразычлівасць, спагаду. Цяжкасцей і гора і так хапае. Чаго каштуе для раёна адна толькі трагедыя вёсак Калюга і Сельцы! Гэта наша агульнае гора. І тут патрэбны не словы, а практычныя справы, каб дапамагчы людзям хутчэй зноў зажыць па-чалавечаму.

Таму мяне здзіўляе, калі на горы нашых землякоў асобныя палітыканы імкнуцца здабыць сабе палітычны капітал. Я маю на ўвазе выказванні і абвінавачванне, якое прагучала на плошчы у Мінску (аб гэтым пісалася ў нашай газеце). На маю думку, гэта амаральна. Карыстаючыся магчымасцю, хачу сказаць шчырае дзякуй усім, хто адазваўся на бяду. Спадзяюся, што і надалей наша міласэрнасць не збяднее.

***В. Шчэцька, старшыня райвыканкама.***

Ганарар прашу пералічыць у фонд падтрымкі газеты «Радзіма».

***«Радзіма» 16.09.1992 № 72***

## ПОМОЩЬ ПОСТРАДАВШИМ

По просьбе глусского комитета общественного самоуправления могилевский комитет БНФ «Дети Чернобыля» выделил гуманитарную помощь для жителей деревень Калюга и Сельцы, пострадавших от пожара 11 августа. Это детская обувь, а также одежда для детей и взрослых — пиджаки, брюки, платья, кофты, нижнее белье, одеяла и т.д., поступившая из Германии.

Комитет общественного самоуправления доставил выделенную гуманитарную помощь из Могилева в Глуск и затем развез ее пострадавшим семьям, расселившимся по всему району. Транспорт для ее доставки выделил глусский райисполком.

Среди получивших помощь — многодетная семья Пинчуков из Калюги, молодая семейная пара Потачиц из Сельцов, а также десятки пожилых людей, которых огненная стихия лишила всего нажитого имущества.

***И.КИРИН***

***«Ратуша» № 19, кастрычнік 1992 г.***

## І Ў ГЛУСКУ БУДЗЕ РЭФЕРЭНДУМ

Днямі Глускі райвыканкам павінен прыняць рашэнне ў адпаведнасці з законам аб дазволе правадзення раённага рэферэндуму. Менавіта такая заява была пададзена 16 верасня ініцыятыўнай групай у саставе 28 чалавек, у якую ўвайшлі рабочыя і служачыя, пенсіянеры, настаўнікі, медработнікі — члены розных партый і грамадскіх арганізацый.

Як паведаміў у тэлефоннай размове старшыня райвыканкама Віктар Шчэцька, рашэнне будзе хутчэй станоўчым, бо парушэнняў закона не выяўлена. Узначальвае групу прадстаўнік БНФ Караленя.

Пытанне ставіцца аб датэрміновым спыненні (роспуску) Глускага раённага Савета народных дэпутатаў у сувязі з недаверам і правядзеннем новых выбараў.

Нічога страшнага ў гэтым кіраўнік раёна не бачыць і лічыць упаўне дэмакратычнай законнай з'явай. Толькі апошняе слова застанецца за выбаршчыкамі.

***Іван Краўчук***
***"Народная газета" 21.10.1992***



*Члены КОСа передают гуманитарную помощь пострадавшим от пожара. В центре - А. Фастовец. Фото И. Кирина.*

## В ГЛУССКЕ СОЗДАНА ИНИЦИАТИВНАЯ ГРУППА ПО ПРОВЕДЕНИЮ РАЙОННОГО РЕФЕРЕНДУМА

В Глусске, под эгидой комитета общественного самоуправления, организована инициативная группа по проведению районного референдума. Она состоит из 28 человек. В инициативную группу вошли рабочие и служащие, учителя и медицинские работники, пенсионеры. Среди них есть сторонники БНФ, Белорусской Крестьянской партии. В группу входят 9 членов комитета общественного самоуправления. Вопрос районного референдума сформулирован следующим образом: «Считаете ли Вы необходимым досрочное прекращение (роспуск) Глусского районного Совета народных депутатов в связи с недоверием и проведение новых выборов в районный Совет осенью 1992 года?»

15 сентября заявление о регистрации инициативной группы подано в Глусский райисполком. Во время последних выборов 1990 г. в списки избирателей района было включено 16 247 человек. Отталкиваясь от этой цифры, в соответствии с законом о референдуме, инициативной группе необходимо собрать 812 подписей в поддержку районного референдума в течение 2-х месяцев после регистрации ее в райисполкоме.

***И.КИРИН,***
***член Глусского комитета общественного самоуправления.***
***«Ратуша» № 20, октябрь 1992 г.***



*Члены КОСа передают гуманитарную помощь пострадавшим от пожара. Слева - А. Фастовец. Справа - Е. Фалецкий. Фото И. Кирина.*

## РАЙОННЫЙ РЕФЕРЕНДУМ В ГЛУССКЕ - РАЙИСПОЛКОМ ГОВОРИТ «НЕТ»




*Митинг в Глуске 21 июня 1992 г. Фото В. Грабко.*

Как уже известно читателям «Ратуши», 15 сентября в Глусске инициативная группа по проведению районного референдума о досрочном роспуске Глусского районного Совета народных депутатов в связи с недоверием и проведением новых выборов, состоящая из 28 горожан, подала заявление о своей регистрации в райисполком. В соответствии с Законом о референдуме райисполком должен был в течение 30 дней выдать свидетельство о регистрации группы, после чего она получила бы право начать сбор подписей в поддержку референдума. Райисполком выждал 30 дней и... отказал в регистрации. Причина - «формулировка вопроса не соответствует требованиям действующего законодательства, согласно которому право роспуска местного Совета и назначение новых выборов в этот Совет принадлежит Верховному Совету Республики Беларусь», как сказано в решении райисполкома № 50-20 от 14.10.92 за подписью председателя райисполкома В.В Щетько.

Между тем в Законе о референдуме говорится:

«На местный референдум могут выноситься вопросы, которые имеют наиболее важное значение для населения соответствующих административно-территориальных образований и отнесены к компетенции соответствующих Советов народных депутатов... На местный референдум не выносятся вопросы о принятии чрезвычайных и неотложных мер по охране общественного порядка, защите здоровья и безопасности населения, о налогах, бюджета; вопросы, связанные с назначением, утверждением и освобождением должностных лиц, которые относятся к компетенции соответствующего местного Совета народных депутатов» (статья 3 Закона о народном голосовании» (референдуме) (в РБ).

Члены инициативной группы расценивают отказ в регистрации как грубое нарушение Закона о референдуме и намерены обжаловать это решение райисполкома в суде в соответствии со статьей 10 данного закона, предусматривающей такое право.

Кстати, в Черикове, где уже собраны подписи в поддержку районного референдума по точно такому же вопросу, инициативная группа в свое время была зарегистрирована без всяких проблем.

***И.КИРИН, член глусского комитета общественного самоуправления***

***«Ратуша» № 22, ноябрь 1992 г.***

*Продолжение следует.*

**ОБЪЯВЛЕНИЕ**

Если вас необоснованно уволили с работы, задержали выплату зарплаты, отказали в рассмотрении обращения, если нарушили ваше право, установленное Конституцией и законами – обращайтесь в общественную приемную Белорусского Хельсинкского Комитета.

Контактный телефон: 41522 (Игорь Кирин)



*Желающих регулярно получать «Глускую панораму» просим сообщить об этом в редакцию газеты.*

№ 9-10 (61-62)
Март 2009 г.
Глуская
ПАНОРАМА

*Общественно-политическая газета.*
*Выходит с июля 1998 г. Редактор - Игорь Кирин.*
*Адрес для писем: 213879, г.п. Глуск, ул. Кирова, 43-18.*
*Тираж - 150 экз. Тел. 41522. E-mail: glu-cl@mail.ru*
*http://www.gluskonline.net*